Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 7 Панядзелак 22-га Сакавіка 1926 г. м. Вільня Год І

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень

Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальн... Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе у... дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая ...—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**



Падпісная цан... За граніц... даражэй.

Адрэс Р... і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokoł“ ...23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. ...дня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам— 20 гр
„ сярод тэксту — 25 гр.
„ на апош. стар. — 10 гр.



## Балючае пытаньне.

Ужо некалькі разоў мы парушалі пытаньне аб беларусізацыі царквы. Нажаль да гэтага часу справа гэтая застаецца не вырашанай. Аднак-жа дзеля таго, што пытаньне гэтае *ставіцца самым жыцьцем* — яно павінна быць вырашана як найхутчэй. Іншыя славянскія праваслаўныя цэрквы, як сэрбская, баўгарская, і г. д., зрабіліся запраўднымі нацыянальнымі цэрквамі. Гэтага пытаньня нельга абмінуць і ў нас. Але мы бачым, што як з боку вышэйшае царкоўнае ўлады, гэтак сама і з боку вясковага духавенства, няма зразуменьня ўсей павагі гэтага пытаньня. Так, выдаваны праваслаўнай мэтраполіяй у Варшаве адзіны беларускі царкоўны журнал „Праваслаўны Беларус“ (праўду сказаць—добра рэдагаваны) перастаў раптам выходзіць, а з ім перастала ісьці для жадаючых гаварыць казаньні па-беларуску, беларускае друкованае праваслаўнае слова. Аднак-жа, апрача шкоды, якую спыненьне журналу прынясло *безпасрэдна* беларускаму духавенству, пазбавіўшы яго друкаваных казаньняў, спыненьне журнала зрабіла яшчэ і дрэннае псыхолёгічнае ўражаньне на вясковых пастыраў. Яны яшчэ больш пачалі *баяцца* гаварыць казаньні пабеларуску. Мы атрымоўваем шмат карэспандэнцыяў ад духавенства, у якіх нам пішуць, што многія пастыры з прыемнасьцю перайшлі-бы на казаньні ў роднай мове, але дамагаюцца, каб на гэта была выдана выразнае распараджэньне вышэйшае ўлады.

*Баяцца* нашыя бацюшкі яшчэ і дзеля таго, што ў сучасны мамэнт акурат рашаюцца справы: рэарганізацыі прыходаў, абыватэльства сьвяшчэньнікаў, філіяў і г. д.—г. зн. іхні лёс, а дзеля гэтага ім прыходзіцца быць вельмі асьцярожнымі. Гэтая баязнь з боку духавенства зусім зразумела і хаця ёсьць такія пастыры, якія усё-ж-ткі гавораць казаньні пабеларуску, *вымагаць каб ініцыятыву* у гэтай справе самадзельна падало вясковае духавенства—даволі трудна. Пры сыстэме поўнае субордынацыі, *ініцыятыва павінна выходзіць ад вярхоў*—ад мэтраполіі, каб гэткім чынам зьняць адказнасьць з безабароннага вясковага сьвяшчэньніка, які, часта зусім слушна, баіцца нават свайго ценю, а ня толькі свайго старасты ці войта, у масе, як ведама, варожых да беларускасьці ўва ўсіх яе праявах.

Гэтымі днямі ў польскіх газэтах зьявілася заметка аб тым, што пры праваслаўнай мэтраполіі ўтвараецца нейкі „савет“ з прадстаўнікоў пасольскіх клюбаў. Думка—абапёрціся на прадстаўнікоў народу ў справах рэлігійных—бязумоўна добрая. Аднак-жа тэхнічна яе не так лёгка правесьці ў жыцьцё. Мала яшчэ абапёрціся на прадстаўнікоў народу, трэба каб гэтыя прадстаўнікі адпаведалі сваім аўтарытэтам і пракананьнямі, як ідэалам самае царквы, так і імкненьням народу. Як гэтае пытаньне стаіць у украінцаў мы ня ведаем. Што-ж тычыцца нашага беларускага прадстаўніцтва, дык справа стаіць надта дрэнна. Частка паслоў-каталікоў зусім адпадае. Праваслаўныя сябры комуністычнай „Сял.-Работн. Грамады“ ня могуць мець нічога супольнага з рэлігійнымі справамі, бо паводле іх кадэксу — „рэлігія ёсьць опіум народаў“. Праваслаўны лідэр „Сялянскага Саюзу“—Рагуля зацікаўленасьці царкоўнымі справамі не выказаў. Найбольш компэтэнтным і адзіным з вышэйшай духоўнай адукацыяй, зьяўляецца сэнатар п. Багдановіч, але ён аказаўся адлучаным ад царквы. Засталіся толькі п. сэнатары Уласаў і Назарэўскі. Але п. Уласаў, які яшчэ ў 1921 годзе быў адным з закладчыкаў „Бел. Правасл. Брацтва“, у сучасны мамэнт рупліва пашырае сярод сялян.. мэтадызм. Застаецца адзін п. Назарэўскі, які праўда надта цікавіцца царкоўнымі справамі і пэўныя заслугі тут мае, але нажаль імкненьняў да беларусізацыі царквы ён да гэтага часу не выказаў. Гэткім чынам справа тварэньня Рады („савета“) пры мэтраполіі выключна з прадстаўнікоў парлямэнту аказваецца тэхнічна надта цяжкай. І дзеля гэтага пытаньне аб беларусізацыі праваслаўнай царквы можа ізноў застацца невырашаным. А на гэтым перадусім будзе траціць сама царква. Разлад паміж духавенствам і паствай ёсьць прыкрым фактам. І калі цяпер у часе моцнага пашырэньня беларускага адраджэнскага руху, беларускае духавенства ня будзе разам з сваім народам, ня будзе яму блізкім і родным, дык гэты разлад яшчэ больш павялічыцца. Толькі тады, калі нашае духавенства будзе жыць думкамі народу, яго лятуценьнямі, яго ідэаламі—толькі тады яно будзе блізкім народу. Наймацнейшай сувязьзю паміж людзьмі заўсёды была і ёсьць родная мова. Толькі мова як пры гутарках прыватных, а тым болей пры выкладаньні Слова Божага як у царкве, так і ў школе зблізіць духавенства з паствай.

Ад гэтага будзе залежыць крэпасьць і самай царквы. Аб гэтым павінны падумаць усе тыя, каму дарага Вера нашых бацькоў, а перадусім тыя, каму выпала на долю кіраваньне царквой у хвілю найбольш цяжкую і адпаведную.

## ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД.

7 сакавіка перад самым паседжаньнем Лігі Народаў у Жэнэве, на якім было закранута пытаньне аб уваходзе Нямеччыны ў Лігу Народаў, правАліўся кабінэт Брыяна ўва Францыі. Гэта зрабіла ўражаньне ўва ўсей Эўропе, як узрыў бомбы. Асабліва напалоханы былі гэтым фактам прыхільнікі Францыі, а ў першую чаргу Польшча, ведаючы, якую вялізную роль мае Брыян на арэне міжнароднае палітыкі. Францыя, як ведама, ёсьць галоўным абаронцам і прыхільніцай Польшчы ў радзе Лігі. Дзеля гэтага шмат хто глядзеў на правал кабінэта Брыяна з пагляду жэнэўскіх падзеяў. Загадзя было ведама, што пытаньне аб уваходзе Польшчы ў Раду Лігі — справа вельмі трудная. Дзеля гэтага шмат хто думаў, што Брыян знарок выклікаў правал кабінэта акурат перад паседжаньнем Лігі Народаў, каб хаця на нейкі час адсунуць аканчальную пастанову Лігі, якая магла быць некарыснай для Польшчы і Францыі, з гэткай мэтай, каб праз гэты час уплынуць на аканчальны рэзультат. Гэты пагляд быў правільны дзеля таго, што галасаваньне над праэктам закона аб падатках ад рахункаў, якое Брыян паставіў у залежнасьці ад лёсу ўсяго кабінэта, вызначанае на 7 сакавіка, ён сьмела мог адлажыць пакуль ня скончацца паседжаньні Лігі Народаў. Гэты неспадзяваны правал кабінэта Брыяна яшчэ тым балей здаваўся незразумелым, што тры дні назад Брыян меў вялізную перамогу ў палаце дэпутатаў, калі разглядалася справа ратыфікацыі Лёкарнскага дагавора. Гэты дагавор быў ратыфікаваны 413 галасамі проці 71 пры 68 устрымаўшыхся. Значыцца вялізная большасьць француской грамадзкай думкі зусім згаджаецца з лёкарнскай палітыкай Брыяна. І толькі цяпер, пасьля хуткай ліквідацыі ўрадовага крызіса і ўтварэньня новага кабінэта Брыяна выясьнілася гэта загадка.

У працягу даволі кароткага часу, ад 11 траўня 1924 г., калі на выбарах у палату дэпутатаў перамог левы блок, ува Францыі мелі ўладу кабінэты: Эрыё, Пэнлевэ, Брыяна ды ізноў Брыяна; на становішчах міністраў фінансаў былі гэткія выдатныя асобы, як Кайо, Лушэр, Пэнлевэ, Думэр ды інш., але ня было прынята ні воднага паважнага фінансавага закона, які меў-бы на мэце аздараўленьне францускіх фінансаў. Усе правалы кабінэтаў былі выкліканы правалами фінансавых законаў. Утварылася гэткае палажэньне, што ніводзін міністар фінансаў ня мог знайсьці спосабу пакрыцьця дзяржаўнага бюджэта, дайшоўшага да 36 мільёнаў франкаў. Спачатку акуратна прытрымоўваліcь парлямэнцкіх звычаяў і кожны правал фінансавай праграмы міністра фінансаў выклікаў і правал усяго кабінэта. Гэтак было пры міністры фінансаў Кайо, Лушэры ды інш. Урэшце Брыян заявіў, што ён дзяржаўныя справы ставіць вышэй парлямэнтарскіх і адмовіўся ад падтрымліваньня паасобных міністраў усім кабінэтам. Гэткім чынам пры ім адбываліся толькі частковыя рэконструкцыі кабінэта, без адстаўкі ўсяго кабінэта. І толькі, калі ён на практыцы пераканаўся, што гэткімі спосабамі нельга прымусіць большасьць палаты прыняць хаця-б 4 мільярды надзвычайных падаткаў для пакрыцьця бюджэта, ён рашыўся на апошні спосаб: уначы з 6 на 7-га гэтага сакавіка ён паставіў на галасаваньне праэкт закона аб падатках ад рахункаў, паставіўшы пры гэтым пытаньне аб даверыі ўсяму кабінэту, маючы надзею, што палата не адважыцца ў гэткі важны гістарычны мамэнт правалiць і ўвесь кабінэт. Але яго спадзяваньні ў гэты раз ня зьдзейсьніліся. Палата незначнай большасьцю галасоў правала праэкт закона і скінула кабінэт Брыяна, ня лічучыся з тым, якое уражаньне гэта зробіць заграніцай і якія гэта можа мець рэзультаты ў Жэнэве.

Што ў гэтым здарэньні ня мелі значэньня комбінацыі міжнароднага палітычнага значэньня відаць з таго, што праз два дні ізноў быў састаў-

мог і абавязкам яго было сказаць праўду. І калі цяперака на шпальтах „Беларускае Нівы“ ён дае выраз свайму „захопленьню“ „раем“, дык тут, як кажа „Сялянская Ніва“ (№ 9) проста—ашуканства. Мы ўжо пісалі аб тым, як глядзяць беларускія эсэры на палажэньне ў Радавай Беларусі. Пададныя імі факты сьцьверджаюць ужо ілжывасьць усякіх выхваленьняў. Але гэткая „Бел. Ніва“, у сваім стараньні выслужыцца перад „начальствам“, — лае і эсэраў як і усіх тых хто ня ідзе з ёю на службу да Комінтэрну. Яна кажэ, што і эсэры, як не прымаючыя Ленінскае веры — ня хочуць прызнаць за комунай нічога добрага. Гэтаксама трактуе „Бел. Ніва“ і стацьпю пасла Ярэміча які разам з Мятлой езьдзіў у Саўдэпію, і які дае адчот па паездцы зусім процілежнага зьместу. Мы ня кажам ужо аб лаянках на нас—„Бел. Слова“, Час. Бел. Раду. Аднак, як нашыя чытачы бачылі з паданай апініі беларускіх эсэраў, а таксама і апісаньня п. Ярэміча, праўда аказваецца на нашым баку. Як нашым братам жывецца пад уладай комуны, добра рысуе зьмешчаны ніжэй пераклад артыкулу „Из Белоруссіи“, надрукованы у IX кніжцы журнала „Свободная Россія“ (выдаецца ў Бэрліне). Журнал гэты выдаецца пры бліжэйшым супрацоўніцтве выдатных расейскіх дэмакратаў, паміж іншым—Мілюкова.

Каго-каго, а яго хіба нельга абвінавачваць ў лішках сымпатыяў да нацыянальных пытаньняў у б. Расеі. Ен—прыхільнік „адзінай недзелімай“. І з гэтага боку—бутафорыя з „самастойнымі“ рэспублікамі С.С.Р.Р., як і наагул — палітыка бальшавікоў у нац. пытаньні зусім адпаведае яго Мілюкова ідэалу — „адзінай, недзелімай“. Дзеля гэтага данныя, якія падае „Свободная Россія“ — маюць для нас асаблівую вагу.

Вось што піша „Свободная Россія“.

Беларуская С.С.Р., па канстытуцыі С.С.Р.Р., зьяўляецца самастойным сябрам Саюзу (свой ЦЦК і СНК). Аднак, у сэнсе адміністрацыйным яна многа менш самастойна, чым нават УССР., ня толькі з прычыны меншых сваіх разьмераў, а асабліва з прычыны выключнага ваеннага значэньня ўсей яе тэрыторыі. У УССР. ёсьць аграмадны тыл, БССР.—гэтакага тылу ня мае, тым больш, што і лежачыя на ўсход ад яе губэрніі РСФСР., напрыклад Смаленская, — лічацца франтавымі. Дзеля гэтага, з усіх народных камісарыятаў найвялікшую вагу ў БССР. маюць РВС (рэвал. ваенная рада) і ОГПУ. (Абласное ГПУ.).

### Беларуская компартыя.

Беларуская компартыя фармальна лічыцца самастойнай адзінкай, але самастойнасьць гэта значна меншая, чым нават ў іншых дробных аўтаномных рэспубліках РССР., з наступных прычын: а) значная частка комуністаў (асабліва ваенных) адначасна належыць да РКП. (Расейская Ком. Партыя) і падпарадкуецца інструкцыям маскоўскага ЦК.; б) *ў компартыі БССР. ёсьць да 60 прац. жыдоў*, зьвязаных з „евсэкцыяй“ ўсяго СССР., г. зн. таксама падпарадкаваных партыйнаму цэнтру, які знаходзіцца за межамі Б ССР. Значэньне беларускай компартыі не вынікае яшчэ і дзеля таго, што ў ёй няма асабліва відных комуністаў, а Чарвякоў зьяўляецца ў поўным сэнсе — стаўленікам Масквы (*і гэта—галава „самастойнай“ рэспублікі!*).

### Палітычныя настроі.

Палітычны настрой у БССР. трэ' лічыць адным з найболей *напружаных* са ўсяго Саюзу, а дзеля гэтага і адміністрацыйны апарат БССР.—зьяўляецца найбольш моцным пасьля Масквы і Ленінграда. Па данным за першую палову 1925 г. ў БССР. на тысячу жыхароў прыходзіцца чынаў ГПУ. ў 2–3 разы больш чым у УСРР. і ў 5–6 разоў больш чым ў іншых губэрніях РСФСР. (*Прыемна жыць там п. Мятла?*)

### Сялянства.

*Сялянства ў БССР ў масе настроена апазыцыйна.* (*Вось як „здаволены“ сяляне, пане Мятла!*). Многа гавораць аб магчымасьці вайны, у рэзультаце якой магчымы пераход пад „паляка“. Гэта цесна зьвязана з антысэмітызмам, бо ў гэтым пераходзе пад уладу „паляка“ бачаць ратунак ад засільля жыдоў, якім, — як цьвердзяць сяляне,—у Польшчы волі не даюць. Гавораць і аб тым, што будучая вайна аб'еднае падзеленную паміж Польшчай і Расеяй Беларусь і яна зможа пачаць самастойнае дзяржаўнае істнаваньне на дэмакратычных падставах. Гэтак думае галоўным чынам беларуская поўінтэлігэнцыя і болей развітыя сяляне. (Суньцеся туды з „інтэрнацыяналам“ паны з „Грамады!).

### Антысавецкі рух.

Рух гэты выяўляецца галоўным чынам ў г. зв. „бандытызме“, які зусім нельга лічыць зліквідаваным, ня гледзячы на ўсе высілкі ГПУ. Афіцыяльныя данныя ГПУ., прадстаўленыя пленуму ЦК. Беларускай Компартыі ў Менску, паказываюць, што за два апошніх месяцы ў БССР *арыштавана больш 3000 чалавек.* Большасьць арыштаў прыходзіцца на вакругі: Менскі—да 600 чал., Бабруйскі—550 чал.; Магілёўскі — 500 чал. і Барысаўскі — 400 чал. На іншыя 6 вакругаў БССР. прыходзіцца каля 1000 арыштаў. Як было аднатавана ў часе дакладу, лік арыштаў саўпадае з большым лікам органаў ГПУ., а не з фактычнай контр-рэвалюцыйнасьцю насяленьня, бо найбольш „заражонымі“ трэ' лічыць не паказаныя вакругі, *а Мозырскі і Слуцкі*, дзе рух найбольш павялічваецца. ГПУ. вядзе з гэтым рухам упартую барацьбу. За два месяцы зьліквідавана 8 вялікіх атрадаў і 25 меншых. *Рух гэты моцна зьвязаны з вёскай (уважайце „Сялянская Грамада!“)* і ў ліку паўстанцаў ёсьць шмат сялян, якія вядуць ў вольны час рэгулярную гаспадарку. (*Дык якжа так п.п. Мятла і К-о з „Грамады“: захвальваеце „рай“, хочаце і нашых сялян туды ўвясьці; а там—аказваецца сяляне так „здаволены“, што з аружжам выходзяць на барацьбу? Кепска, паны радзіце! Ня добрая ваша работа! Рэд*).

### Нацыянальнае пытаньне.

Гэтае пытаньне надта заблутана дзякуючы вялікай ненавісьці вёскі да жыдоў, з якіх складаецца большасьць месцовай компартыі. Гэтае пытаньне было пастаўлена на павестку пленума ЦК. ком. партыі БССР., 12. X мін. г. „Евсэкцыя“ пры гэтым высунула надта балючае пытаньне аб ненармальных, з яе пункту гледжаньня, адносінах да месцовага жыдоўскага насяленьня з боку чырвоных часьцей, якія раскватэраваны ў БССР. і асабліва іх комсастава, які ахвотна падтрымлівае беларускае сялянства ў яго конфліктах з жыдамі. Гэта абвінавачаньне мае падставу, бо цяперака працэнт жыдоў у часьцях РККА. вельмі нязначны ў параўнаньні з адміністрацыйнымі органамі і гэткі антаганізм запраўды істнуе. Трэба падкрэсьліць зусім нязначны пасьпех антырэлігійнай прапаганды. Нават ў часьцях РККА. у межах БССР—адносіны да рэлігіі вельмі спагадлівыя.

### „Савбудаўніцтва“.

Праца па „савбудаўніцтву“ ідзе вельмі слаба. Адміністрацыйны ўціск вельмі моцны, а дайшоўшай ў цэнтральных губэрнях даволі далёка „стаўкі на безпартыйнае сялянства“ тутка амаль зусім няма. Спробы прыцягіваньня сялян і работнікаў да савецкай ўрадавай працы мелі месца толькі ў Менскай вакрузе, дзе гэткія *„выдвіжэнцы“ знаходзяцца пад заўсёдным дагглядам цэнтральных уладаў Г.П.У.* (*„Як мыш пад мятлой“ чуюцца гэтыя выдвіжэнцы—беларусы!* Рэд.). У іншых месцох—пануе адміністрацыйная самаволя і *сялянскія саветы амаль ніякага значэньня ня маюць. На тое „Савецкая“ улада ёсьць!* Трэба адзначыць, што ваенная ўлада вельмі часта ідзе на сустрэчу запраўдным інтарэсам сялян ў іх спрэчках з адміністрацыяй і комсастаў карыстаецца часам сымпатыяй і на'т папулярнасьцю за межамі чырвоных часьцей.

### Прамысловасьць.

Прамысловасьць БССР. самастойнага значэньня ня мае, з прычыны слабога яе разьвіцьця.

### Работнікі.

Работнікі ў БССР. складаюць вельмі *нязначны працэнт* насяленьня Паказывае гэта хаця-бы той факт, што самым вялікім прафсаюзам ёсьць—саюз чугуначнікаў Настрой работнікаў — нэрвовы. Часьць работніцкай моладзі (комуністы і комсамольцы) падтрымоўваюць уладу, аднак сярод іх ёсьць моцнае імкненьне выйсьці на адміністрацыйныя пасады, што многім і удаецца і тады яны зусім парываюць сувязь з работнікамі. Склад работнікаў-беларусаў гэткі ня сталы, што улада не пасьпевае перацягнуць іх на свой бок, тым больш, *што варункі працы — цяжкія, а аплата — малая („Рай“ для работнікаў, пане Мятла?)*. Вялікага палітычнага значэньня беларускія работнікі ня маюць і іх настроі не зьяўляюцца паказчыкам будучых падзеяў. За апошнія часы ў зьвязку з арыштам у Гомэлі (ў майстроўнях палескай чугункі) трох чугуначнікаў, распаўсюджываючых лістоўкі анархічнага зьместу, ідуць вобыскі і сярод работнікаў БССР., дзеля таго, што анархічная агітацыя мае запраўды вялікі пасьпех.

## Пісьмо у рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Не адмоўце ў зьмяшчэньні на шпальтах Вашае паважанае газэты ніжэйпаданага:

У № 19 комунізуючай газэты „Беларуская Ніва“ зьмешчана чарговая зусім сьвядомая ілжа і інсынуацыя на мяне „бязыменнага“ аўтара аб тым, што на працэсе кс. Гадлеўскага я нібыта быў „як муж даверыя з боку пракуратуры і сядзеў разам з дэфэнзывай“.

Дзеля гэтага лічу патрэбным высьвятліць праўду. Раблю гэта не дзеля таго, каб яшчэ раз (які ўжо!) паказаць усю „этычную“ „чыстаплотнасьць“ п. бязыменнага „аўтара“, а выключна дзеля таго, што ўсё беларускае грамадзянства рэагавала на справу кс. Гадлеўскага надта нэрвова і магчыма, што гэтая інсынуацыя „Беларускай Нівы“ можа быць вытлумачана ў тым сэнсе, што я выступіў проці кс. Гадлеўскага, ды яшчэ ў часе яго працэсу. Дык вось як запраўды была гэтая справа:

1. Я быў дапушчаны на працэс *ужо пасьля выбару 3 даверaных з боку пракуратуры* і 3 з боку абароны.

2. Я быў дапушчаны на Суд як прадстаўнік беларускае арганізацыі, як *нэйтральная асоба*, за згодай як старшыні Суда, гэтак і *адвакатаў абароны*.

3. У першы дзень суда я сядзеў разам з паслом кс. А. Станкевічам і кс. Семашкевічам, а на другі дзень — з загадчыкам беларускай кнігарні Ст

---

меец з патронамі, якому не сядзелася на месцы.

— З гэтым цягнікам—рэквізыцыя па вагонам, сказаў ня гледзячы на таго чорны чырвонаармеец, які даглядаў, як другія садзіліся ў вагоны.

— Гавора і не глядзіць, чорт! хмура сказаў рабы.

— Відаць начальнік атраду.

— „Гаспада!“ адазваўся злобна рабы. Ім тутка добра па вагонах вандраваць, а вось-бы на вёску прыйшлося — дык пазналі-б...

— Але. Там гарэй чым на вайне: зловяць—жывым у зямлю...

— Гэта ў іх — раз-раз. Ня мала нашага брата гэтак пахавалі...

— А па вагонам — добра, сказаў чырвонаармеец з патронамі. Я некалі езьдзіў; ўбачыш вось што многа гэткага народцу набралося, затрымаеш цягнік у полі, пастраляеш для парадку ўгару, а там ідзі бяры што хочаш.

Раптам цягнік затрымаўся ў полі і ад задніх вагонаў пачуліся стрэлы.

Чырвонаармеец з патронамі і другі з падвязаным вокам ўскачылі і кінуліся да краю пляцформы паглядзець.

Ад цягніка ў розных кірунках, бегялі мужыкі і бабы да блізкага лесу і цягнулі за сабой па траве мяшкі, торбы...

— Вось здорава падпільнавалі, крыкнуў салдат з патронамі, і раптам закрычаў тонкім піскучым голасам, з якім павадыры хартаў ганяюцца за зайцамі:

— Ай-яй! Трымай! Лаві!

На'т хмуры рабы адразу стаў вясёлым, падобна як стары, страціўшы ўжо ўва ўсё веру музыкант весялее і ўсьміхаецца скрозь сваю хмурасьць, калі пачуе знаёмую мэлёдыю, якая ажыўляе ў яго памяці лепшыя, вясёлыя часы.

— Толькі чэрці касапузыя—што-ж гэта яны надумалі: — каля лесу затрымлівацца пачалі; сказаў ён.

А чырвонаармеец з патронамі крычэў і ажно топаў нагамі ад нецярплівасьці.

Калі цягнік пайшоў і ўсё сьціхла, ён нагнуўся з пляцформы і крыкнуў у кірунку задніх вагонаў:

— Многа набралі?

— Хопіць! пачуўся адтуль нездаволены голас.

— Га! вось служба! сказаў чырвонаармеец з патронамі—мне толькі месяц прыйшлося вось так папрацаваць, а пасьля проста на вёску назначылі, каб яе чэрці ўзялі!

— Ды часам і на вёсцы ня так ўжо кепска бывае. Толькі даведаўся, калі кірмаш або рынак — дык і на вёсцы добра будзе.

— Гэта праўда, ляпей ня трэба. Наставяць гэта па ўсяму пляцу гэтыя гаршкі ды вазы, коней выпрагуць, аглоблі ў гару — і пайшлі лазіць па рынку.

— Вось тут і валі...

— Ды на што лепей!

— Тут вайна ідзе, ўсе з голаду дохнуць, а яны жруць сабе панскую сьвініну, ды гаршкамі на рынку гандлююць; а паедзеш за паложанай „развёрсткай“—усе бедныя, ні ў кога нічога няма.

— На рынку ўжо без абмылкі будзе, — адказаў чырвонаармеец з патронамі; мы неяк адзін раз вось гэтак (ён усьміхнуўся і паківаў галавой) — як наляцелі на гэткі рынак, як пачалі паліць у паветра, а наш камандзэр,—вось быў дзіўны — крычыце, кажа: немцы! Пры чым тут немцы? Але добра! палім, а самі ўва ўсю глотку: немцы! ратуйцеся!.. Што тут было... Коні калі пойдуць скакаць паміж вазоў, ды па гаршкам, бабы—гандляркі гэтыя—хто куды... А мы яшчэ, ды яшчэ, ды бух-бух у паветра! Колькі тут нам дасталася ўсяго — не пералічыш!

— І скажы, братка ты мой: вось цяперака як правучылі крыху, часамі і самі пачалі прывазіць. Разумець пачалі.

Усе змоўклі.

А рабы пагледзіў на сонца і сказаў:

— Да начы прыедзем. Шкада што месяц вось будзе...

*Пантэлейман Раманаў.*

